ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 13 (1650) | Аўторак, 13 лютага 1962 года. | Цана 4 кап.

Партыя заклікае савецкую інтэлігенцыю — работнікаў народнай асветы, аховы здароўя, навукі, культуры, літаратуры і мастацтва — і ў далейшым аддаваць усе сілы вялікай справе камуністычнага будаўніцтва, верна служыць савецкаму народу, змагацца за далейшы росквіт навукі, хутчэйшае ўкараненне ў вытворчасць новых адкрыццяў і даследаванняў, ярчэй адлюстроўваць у творах літаратуры і мастацтва веліч і прыгажосць гераічных спраў савецкага чалавека, перамогу ідэй сацыялізма і камунізма!

# ЗВАРОТ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

## ДА ЎСІХ ВЫБАРШЧЫКАЎ — РАБОЧЫХ І РАБОТНІЦ, КАЛГАСНІКАЎ І КАЛГАСНІЦ, САВЕЦКАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ, ВОІНАЎ САВЕЦКАЙ АРМІІ І ВАЕННА-МАРСКОГА ФЛОТУ

Дарагія таварышы!

Грамадзяне Савецкага Саюза!

18 сакавіка 1962 года адбудуцца выбары ў Вярхоўны Савет Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Гэта — важная палітычная падзея ў жыцці савецкага грамадства, вялікае і раднасае свята працоўных нашай Радзімы.

Падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Савет СССР праходзіць у абстаноўцы небывалага ўздыму працоўнай энергіі і творчай ініцыятывы савецкага народа, выкліканага гістарычнымі рашэннямі XXII з'езда КПСС, прынятай ім Праграмай Камуністычнай партыі Савецкага Саюза — праграмай пабудовы камуністычнага грамадства ў нашай краіне.

Камуністычная партыя лічыць неабходным дакладзіць савецкаму народу аб выкананні задач, пастаўленых у дні мінулых выбараў у Вярхоўны Савет СССР, расказаць аб планах на будучае. Гэтыя планы поўнасцю вызначаюцца рашэннямі XXII з'езда партыі, новай Праграмай КПСС.

Увесь наш вялікі народ успрыняў рашэнні XXII з'езда, новую Праграму партыі як сваю самую родную і блізкую справу. Палітыка партыі карыстаецца бязмежным давер'ем і гарачай падтрымкай савецкіх людзей. Перад усім светам зноў прадстала несакрушальная сіла адзінства і згуртаванасці савецкага грамадства, беззапаветная адданасць усіх народаў СССР неўміручым ідэям марксізма-ленінізма, ідэям камунізма.

Чатыры гады мінула пасля папярэдніх выбараў у Вярхоўны Савет СССР. Гэта быў час упорнай барацьбы савецкага народа за выкананне сямігадовага плана, магутнага ўздыму прамысловасці, сельскай гаспадаркі, навукі і культуры, далейшага развіцця Савецкай дзяржавы і росквіту ўсенароднай сацыялістычнай дэмакратыі. Партыя цвёрда і паслядоўна вяла краіну ленінскім курсам, выпрацаваным XX з'ездам КПСС. Рашуча пераадолеўшы шкодныя вынікі культу асобы, адкінуўшы з дарогі антыпартыйную групу змоўшчыкаў, партыя ажыццявіла рад буйных, сапраўды рэвалюцыйных мер у гаспадарчым і культурным будаўніцтве, у многіх галінах грамадскага жыцця.

Напярэдадні новых выбараў у вышэйшы орган дзяржаўнай улады партыя з вялікім задавальненнем адзначае, што заданні сямігадовага плана выконваюцца паспяхова. **Высокімі тэмпамі развіваецца галоўная і рашаючая галіна эканомікі — прамысловасць.** Сярэднегадавы прырост прамысловай прадукцыі за першыя тры гады сямігодкі склаў 10 працэнтаў замест запланаваных 8,3 працэнта.

За мінулыя чатыры гады выплаўка чыгуну павялічылася з 37 амаль да 51 мільёна тон, сталі — з 51 да 71 мільёна тон, вытворчасць пракату — з 40 да 55 мільёнаў тон. Здабыча вугалю ўзрасла з 463 да 510 мільёнаў тон, здабыча нафты — з 98 да 166 мільёнаў тон. У 1957 годзе электрастанцыі СССР выпрацавалі 210 мільярдаў кілават-гадзін электраэнергіі, а ў 1961 годзе — 327 мільярдаў кілават-гадзін. **Пабудавана і ўведзена ў дзеянне чатыры тысячы буйных прамысловых прадпрыемстваў.** Створаны і ўкаранёны ў вытворчасць тысячы навейшых тыпаў машын, станкоў, апаратаў, прыбораў. На аснове тэхнічнага прагрэсу шпаркімі тэмпамі ўзрастала прадукцыйнасць працы. За кошт павышэння прадукцыйнасці працы ў апошнія гады атрымана амаль 70 працэнтаў прыросту прамысловай прадукцыі.

Партыя і ўрад прымаюць меры да больш поўнага задавальнення ўсё ўзрастаючых запатрабаванняў на тавары народнага ўжытку. За чатыры гады выпуск тканін усіх відаў павялічыўся з 5,7 да 6,7 мільярда квадратных метраў, у тым ліку шарсцяных тканін з 361 да 455 мільёнаў квадратных метраў. Скуранога абутку ў мінулым годзе выпушчана 442 мільёны пар — па дзве пары на кожнага савецкага чалавека. З чатырох з лішнім мільёнаў да 6 мільёнаў тон узрасла вытворчасць цукру-пяску з айчыннай сыравіны. Павялічыўся продаж матацыклаў, швейных машын, радыёпрыёмнікаў, тэлевізараў і іншых тавараў.

З году ў год наша краіна ўсё больш перавышае ЗША не толькі па тэмпах вытворчасці, але і па абсалютнаму прыросту многіх важнейшых відаў прадукцыі. Савецкі Саюз ужо цяпер апярэдзіў ЗША па здабычы жалезнай руды і вугалю, вытворчасці коксу, зборнага жалезабетону, магістральных цеплавозаў і электравозаў, піламатэрыялаў, шарсцяных тканін, цукру, масла, па ўлову рыбы і па раду іншых прадуктаў і вырабаў.

Напярэдадні папярэдніх выбараў у Вярхоўны Савет СССР Камуністычная партыя заявіла, што яна будзе **з неаслабнай энергіяй змагацца за круты ўздым сельскай гаспадаркі.**

Партыяй і ўрадам ажыццяўляюцца важнейшыя мерапрыемствы, якія забяспечваюць рост вытворчасці збожжа, прадуктаў жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. У бязмежных стэпах Казахстана, Сібіры, Паволжа, Урала і іншых усходніх раёнаў узарана каля 42 мільёнаў гектараў цалінных і абложных зямель. Асваенне цалінных зямель — вялікі працоўны подзвіг савецкага народа ён будзе жыць у стагоддзях! Валавы збор збожжа ў нашай краіне дасягнуў 8—8,5 мільярда пудоў у год. За апошнія чатыры гады на 15 мільёнаў павялічылася пагалоўе буйной рагатай жывёлы, на 22 мільёны — пагалоўе свіней, галоўным чынам за кошт развіцця грамадскай гаспадаркі. Толькі ў 1961 годзе пагалоўе буйной рагатай жывёлы ўзрасло больш чым на 6 мільёнаў галоў і свіней — на 7,7 мільёна галоў. Гэты прырост вышэйшы, чым гадавы прырост за любы з пасляваенных гадоў.

У мінулым годзе насельніцтву прададзена больш, чым у 1957 годзе: малака і малочных прадуктаў — у 1,7 раза, мясных прадуктаў — у 1,5 раза, яек — у 1,7 раза, хоць у сувязі са шпаркім ростам попыту цяперашні ўзровень вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў яшчэ не забяспечвае поўнасцю патрэбнасці насельніцтва. Камуністычная партыя выказвае поўную ўпэўненасць у тым, што намаганнямі ўсёй партыі, усяго савецкага народа, перш за ўсё самаадданай працай калгаснага сялянства, работнікаў саўгасаў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі ўжо ў 1962 годзе будзе значна павялічана вытворчасць прадуктаў для насельніцтва краіны.

Чатыры гады назад Камуністычная партыя заявіла, што яна будзе нястомна клапаціцца **аб далейшым развіцці навукі, літаратуры, мастацтва, народнай асветы, аб павышэнні культурнага ўзроўню народных мас.**

У цяперашні час у СССР вучыцца кожны чацвёрты чалавек; 40 працэнтаў рабочых і 23 працэнты калгаснікаў маюць сярэднюю і вышэйшую адукацыю. У нас рыхтуецца ў тры разы больш інжынераў, чым у Злучаных Штатах Амерыкі. Савецкая навука і тэхніка дасягнулі сапраўды трыумфальных перамог. Незадоўга да папярэдніх выбараў Савецкі Саюз вывеў на арбіту першы ў свеце штучны спадарожнік Зямлі. У мінулым годзе чалавек з планеты Зямля ўпершыню праклаў дарогу ў космас. Гэта зрабілі савецкія людзі — камуністы Юрый Гагарын і Герман Цітоў!

Звяртаючыся сёння да выбаршчыкаў, партыя з гонарам гаворыць: вось яны, вялікія здзяйсненні савецкіх людзей — нашага гераічнага рабочага класа, слаўнага калгаснага сялянства, савецкай інтэлігенцыі, выдатных савецкіх вучоных!

Усё, што робіцца ў нашай краіне — і пакарэнне магутных рэк, і арашэнне бязводных стэпаў, і ўзвядзенне гіганцкіх заводаў і электрастанцый, і асваенне касмічных трас, — усё робіцца для народа, у імя чалавека, на карысць чалавеку.

Камуністычная партыя сваёй галоўнай задачай заўсёды лічыла і лічыць **клопаты аб уздыме народнага дабрабыту.** За чатыры гады нацыянальны даход СССР узрос на 38 працэнтаў, павялічыліся рэальныя даходы рабочых, служачых і калгаснікаў.

У нашай краіне няма сям'і, якая рэальна не адчула б вынікі сацыяльных мерапрыемстваў, ажыццёўленых партыяй і ўрадам за апошнія гады. На бюджэце мільёнаў сем'яў прыкметна выявіліся павелічэнне заработнай платы нізкааплачваемым рабочым і служачым, павышэнне пенсій, паступовая адмена падаткаў, якая пачалася з 1960 года. Пасля ўвядзення павышаных пенсій расходы дзяржавы на гэтыя мэты ўзраслі з 3 да 7,6 мільярда рублёў. Першы этап адмены падаткаў даў працоўным за год дадаткова 360 мільёнаў рублёў, а другі год дасць яшчэ 400 мільёнаў.

Вось ужо больш чым год, як усе рабочыя і служачыя пераведзены на сямігадзінны і шасцігадзінны рабочы дзень. У выніку рабочы тыдзень зменшыўся на шэсць з палавінай гадзін, прычым заработная плата не толькі не зменшылася, але ў значнай часткі рабочых і служачых узрасла.

Усё больш матэрыяльных даброт атрымліваюць працоўныя з грамадскіх фондаў. У 1957 годзе выплаты і льготы насельніцтву з грамадскіх фондаў склалі 20,2 мільярда рублёў, у мінулым годзе — 26,4 мільярда рублёў. На дзяржаўным забеспячэнні знаходзяцца пенсіянеры; каля 4 мільёнаў студэнтаў і навучэнцаў атрымліваюць стыпендыі і забяспечваюцца інтэрнатам; звыш 7 мільёнаў працоўных і іх дзяцей штогод адпачываюць і лечацца ў санаторыях, дамах адпачынку, піянерскіх лагерах за кошт сродкаў сацыяльнага страхавання і калгасаў; каля 7 мільёнаў маці атрымліваюць дапамогу.

Вялізарную ўвагу партыя ўдзяляла і ўдзяляе жыллёваму будаўніцтву. Будуем мы многа: у разліку на тысячу чалавек насельніцтва ў нашай краіне ўзводзіцца ўдвая больш кватэр, чым у ЗША і Францыі, і ў два з лішнім раза больш, чым у Англіі і Італіі. 50 мільёнаў савецкіх людзей — амаль чвэрць усяго насельніцтва Савецкага Саюза — адсвяткавалі наваселле на працягу апошніх пяці гадоў. Партыя і ўрад прымаюць сур'ёзныя меры для таго, каб на працягу бліжэйшага дзесяцігоддзя ў краіне было скончана з недахватам у жыллі.

Дарагія таварышы!

Нам, савецкім людзям, выпаў вялікі гонар: першымі ў гісторыі чалавецтва пракладваць шлях да камунізма. «Камунізм, — гаворыцца ў Праграме партыі, — гэта бяскласавы грамадскі лад з адзінай агульнанароднай уласнасцю на сродкі вытворчасці, поўнай сацыяльнай роўнасцю ўсіх членаў грамадства, дзе разам з усебаковым развіццём людзей вырастуць і прадукцыйныя сілы на аснове пастаянна растучай навукі і тэхнікі, усе крыніцы грамадскага багацця пальюцца поўным патокам і ажыццёвіцца вялікі прынцып «ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па патрэбнасцях».

Каб пабудаваць такое грамадства — самае справядлівае і шчаслівае на зямлі, — трэба, перш за ўсё, стварыць яго матэрыяльна-тэхнічную базу. Партыя навукова вызначыла той узровень грамадскай вытворчасці, якога павінна дасягнуць наша краіна, каб на працягу двух дзесяцігоддзяў стварыць магутную эканоміку камунізма: **аб'ём прамысловай прадукцыі павінен быць павялічан не менш чым у шэсць разоў, а сельскагаспадарчай прадукцыі — у тры з палавінай раза.**

І мы даб'ёмся гэтага! У нас ёсць усе неабходныя ўмовы: самы перадавы грамадскі лад, маральнае і палітычнае адзінства нашага грамадства, незлічоныя прыродныя багацці, першакласная прамысловасць і буйная, механізаваная сельская гаспадарка, перадавая навука, якая цалкам служыць інтарэсам народа.

Вось чаму Камуністычная партыя цвёрда і ўпэўнена гаворыць савецкаму народу:

— Ужо ў бліжэйшае дзесяцігоддзе Савецкі Саюз перавысіць па вытворчасці прадукцыі на душу насельніцтва найбольш магутную і багатую краіну капіталізму — ЗША; значна ўзнімецца ўзровень народнага дабрабыту; усе калгасы і саўгасы ператворацца ў высокапрадукцыйныя і высокадаходныя гаспадаркі; у асноўным будуць задаволены патрэбнасці савецкіх людзей у добраўпарадкаваным жыллі; СССР стане краінай самага кароткага ў свеце рабочага дня;

— у выніку другога дзесяцігоддзя будзе створана матэрыяльна-тэхнічная база камунізма, якая забяспечыць багацце матэрыяльных і культурных даброт для ўсяго народа; савецкае грамадства ўшчыльную падыдзе да ажыццяўлення прынцыпу размеркавання па патрэбнасцях, адбудзецца паступовы пераход да адзінай агульнанароднай уласнасці; у СССР будзе ў асноўным пабудавана камуністычнае грамадства;

— на працягу дваццаці год рэальныя даходы на душу насельніцтва ўзрастуць больш чым у тры з палавінай раза; ужо к канцу першага дзесяцігоддзя ў краіне не застанецца нізкааплачваемых рабочых і служачых; грамадскія фонды павялічацца больш чым у дзесяць разоў;

— наша Радзіма будзе краінай самага высокага жыццёвага ўзроўню насельніцтва і самай высокай культуры.

Бліжэйшыя чатыры гады — важны этап вялікіх работ па будаўніцтву камунізма. Савецкі народ завершыць выкананне сямігадовага плана. У 1965 годзе прамысловая вытворчасць узрасце ў параўнанні з 1961 годам не менш чым на 40 працэнтаў. Больш, чым намячалася кантрольнымі лічбамі на 1965 год, будзе атрымана важнейшых відаў прамысловай прадукцыі і розных тавараў народнага ўжытку. Будзе поўнасцю задаволены попыт насельніцтва на харчовыя прадукты.

Ужо цяпер можна з упэўненасцю сказаць, што сямігадовы план мы не толькі выканаем, але і перавыканаем.

Велічны будынак камунізма ўзводзіцца ўпартай працай савецкага народа — рабочага класа, сялянства, інтэлігенцыі. Чым больш прадукцыйная іх праца, тым бліжэй запаветная мэта! «Камунізм, — гаварыў на XXII з'ездзе М. С. Хрушчоў, — можна пабудаваць працай, працай і толькі працай мільёнаў».

Звяртаючыся да гераічнага рабочага класа, да інжынераў, тэхнікаў, канструктараў, да ўсіх работнікаў прамысловасці, партыя кліча іх нястомна змагацца за далейшы тэхнічны прагрэс і павышэнне прадукцыйнасці працы, зніжэнне сабекошту і паляпшэнне якасці вырабаў, за найбольш рацыянальнае выкарыстанне капітальных укладанняў. **Яшчэ шырэй разгортвайце ўсенароднае сацыялістычнае спаборніцтва, яшчэ больш настойліва ўкараняйце ў вытворчасць дасягненні навукі і перадавога вопыту, паўней выкарыстоўвайце рэзервы, дабівайцеся, каб кожнае прадпрыемства выконвала і перавыконвала вытворчыя планы і сацыялістычныя абавязацельствы!**

Партыя заклікае слаўнае калгаснае сялянства, рабочых і работніц саўгасаў, спецыялістаў сельскай гаспадаркі сканцэнтраваць намаганні на лепшым выкарыстанні зямлі і павышэнні культуры земляробства, паскораным уздыме вытворчасці збожжа, бавоўны, кукурузы, цукровых буракоў, гароху, бобу і іншых найбольш каштоўных культур, комплексна механізаваць усе галіны сельскагаспадарчай вытворчасці, стварыць трывалую ўстойлівую кармавую базу і настойліва дабівацца выканання планаў развіцця жывёлагадоўлі. **Шырока ўкараняючы вопыт перадавых людзей сельскай гаспадаркі, працаўнікі калгасаў і саўгасаў ужо ў гэтым годзе павінны дабіцца сур'ёзнага павелічэння вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў з тым, каб гэта павелічэнне рэальна адчулі мільёны савецкіх людзей.**

Партыя заклікае савецкую інтэлігенцыю — работнікаў народнай асветы, аховы здароўя, навукі, культуры, літаратуры і мастацтва — і ў далейшым **аддаваць усе сілы вялікай справе камуністычнага будаўніцтва, верна служыць савецкаму народу, змагацца за далейшы росквіт навукі, хутчэйшае ўкараненне ў вытворчасць новых адкрыццяў і даследаванняў, ярчэй адлюстроўваць у творах літаратуры і мастацтва веліч і прыгажосць гераічных спраў савецкага чалавека, перамогу ідэй сацыялізма і камунізма!**

Камуністычная партыя ў сваёй Праграме ўрачыста абвясціла, што **цяперашняе пакаленне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізме.** Для гэтага патрабуецца не толькі пабудаваць магутную матэрыяльна-тэхнічную базу, але і выхаваць усіх савецкіх людзей у духу высокай камуністычнай свядомасці.

Вядома, камуністычная свядомасць не зваліцца з неба, не прыйдзе сама па сабе. Яна выпрацоўваецца ў штодзённай працы на карысць грамадства, у актыўным удзеле мільёнаў людзей у грамадскім жыцці, ва ўпорнай вучобе, у ходзе той вялізарнай і рознабаковай ідэалагічнай работы, якую вядзе наша партыя.

Выхаванне чалавека камуністычнага грамадства патрабуе поўнага пераадолення ўсіх перажыткаў капіталізму — дармаедства, крадзяжу, скнарнасці, п'янства, хуліганства і іншых заган. Тут трэба дзейнічаць энергічна і сілай закону, і сілай грамадскага ўздзеяння. Пачэсная роля ў гэтым належыць прафсаюзам, камсамолу, народным дружынам, добраахвотным таварыствам, усёй савецкай грамадскасці.

Таварышы выбаршчыкі!

Кожны з вас з поўнай падставай можа сказаць: **Дзяржава — гэта мы!** Наша сацыялістычная дзяржава, узнікшы ў агні Кастрычніцкай рэвалюцыі як дзяржава дыктатуры пралетарыяту, ператварылася цяпер у **агульнанародную** дзяржаву. **Мільёны савецкіх грамадзян на справе ўдзельнічаюць у** кіраванні справамі краіны, у кіраўніцтве гаспадарчым і культурным будаўніцтвам.

У любой буржуазнай дзяржаве так званая «дэмакратыя» служыць прыкрыццём насілля над народам, крывадушная і ілжывая буржуазная «дэмакратыя» — рай для багатых, пастка і ашуканства для эксплуатуемых, для бедных. Буржуазныя дзяржавы парушаюць і імкнуцца звесці на нішто нават тыя нямногія дэмакратычныя правы, якія заваяваны працоўнымі ў жорсткіх класавых бітвах. Ідэолагі імперыялізму з цынічным ханжаствам называюць «свабодным» свет, у якім уладарыць грашовы мяшок, кіруе кучка багацеяў.

Але што можа проціпаставіць капіталізм сапраўднай свабодзе і росквіту асобы ў Савецкім Саюзе? Свабоду для багатых эксплуатаваць і грабіць бедных, мільёны «свабодных» ад работы, рост падаткаў, нястрымную гонку ўзбраенняў, расавую дыскрымінацыю, цкаванне дэмакратычных арганізацый? Які ж гэта «свабодны свет»? Не, гэта не свабодны свет, гэта — свет бяспраўя і беспрацоўя, рабства і прыгнечання!

У нашай краіне існуюць зусім іншыя, сапраўды справядлівыя грамадскія адносіны, сапраўдная дэмакратыя і свабода. Толькі пры сацыялізме магчымы поўная сацыяльная і нацыянальная роўнасць, свабода творчасці, гарманічнае спалучэнне асабістых інтарэсаў з інтарэсамі ўсяго грамадства. Толькі пры сацыялізме перад чалавекам працы адкрыты ўсе дарогі, ён адчувае сябе сапраўдным гаспадаром сваёй краіны і яе багаццяў, гаспадаром свайго лёсу. Толькі сацыялізм стварыў умовы для працвітання і сапраўднай дружбы ўсіх народаў многанацыянальнага Савецкага Саюза.

Партыя паставіла задачу, каб школу кіравання дзяржавай праходзілі ўсё новыя і новыя мільёны працаўнікоў горада і вёскі. Таму пры кожных выбарах у Саветы цяпер будзе абнаўляцца не менш чым трэць саставу дэпутатаў. Будзе сістэматычна абнаўляцца і састаў кіруючых органаў Саветаў.

Партыя лічыць неабходным, каб работнікі Саветаў і іх дэпутаты рэгулярна рабілі справаздачу перад выбаршчыкамі, каб ажыццяўлялася права выбаршчыкаў на датэрміновае адкліканне дэпутатаў, якія не апраўдалі давер'я, каб дзелавыя і асабістыя якасці кандыдатаў у дэпутаты шырока і ўсебакова абмяркоўваліся на сходах і ў друку.

Партыя і ўрад пастаянна раяцца з народам па карэнных пытаннях гаспадаркі, культуры, знешняй палітыкі, выносяць на абмеркаванне працоўных мас праекты важнейшых законаў. У нашай краіне права заканадаўчай ініцыятывы дадзена прафсаюзам, камсамолу і іншым грамадскім арганізацыям у асобе іх агульнасаюзных і рэспубліканскіх органаў.

За апошнія гады ўзрасла роля Вярхоўнага Савета СССР, як вышэйшага органа дзяржаўнай улады. Вярхоўным Саветам прынят рад законаў, якія садзейнічалі паляпшэнню кіраўніцтва прамысловасцю і сельскай гаспадаркай, дзяржаўным і культурным будаўніцтвам, знешняй палітыкай, удасканаленню савецкага заканадаўства. Пастаянныя камісіі Вярхоўнага Савета ажыццяўляюць кантроль за дзейнасцю міністэрстваў, ведамстваў і гаспадарчых арганізацый. Намнога расшырыліся сувязі савецкага парламента з парламентарыямі зарубежных краін.

**Цяпер галоўнае ў дзейнасці ўсіх дзяржаўных органаў — павышэнне грамадска-палітычнай актыўнасці працоўных, арганізатарская работа ў масах, правільны падбор кадраў, праверка і ацэнка іх па практычных справах, кантроль фактычнага выканання заданняў і рашэнняў партыі і ўрада.**

Партыя дабіваецца, каб наш дзяржаўны апарат быў простым, кваліфікаваным, аператыўным, без бюракратызму і цяганіны. Трэба арганізаваць пастаянны і дзейсны грамадскі кантроль за выкананнем законаў Савецкай дзяржавы, дабіцца таго, каб ніхто не мог ухіліцца ад народнага кантролю. Грамадскі кантроль — надзейная зброя барацьбы з бюракратызмам і цяганінай, з раскраданнямі народнага дабра, школа камуністычнага выхавання мас.

Дарагія таварышы!

За мінулыя чатыры гады адбыліся важныя змены ў расстаноўцы і суадносінах сіл на міжнароднай арэне. Сусветная сацыялістычная сістэма ўмацавалася, стала магутнай апорай прагрэсіўнага чалавецтва ў барацьбе за мір і бяспеку народаў. У спаборніцтве дзвюх сістэм сацыялізм атрымлівае рашаючыя перамогі, адваёўвае ў капіталізму новыя і новыя пазіцыі. Магутная хваля нацыянальна-вызваленчай барацьбы разбіла спрадвечныя каланіяльныя турмы ў многіх краінах Азіі і Афрыкі. Узмацняюць рух супраць імперыялістычнага прыгнёту народы Лацінскай Амерыкі. Імперыялізм пацярпеў глыбокае маральнае паражэнне ў вачах усіх народаў.

Цяпер кожнаму сумленнаму чалавеку на зямлі зразумела, што калі вайну ўдалося прадухіліць, калі народы карыстаюцца дабротамі мірнага жыцця, то ў гэтым вялізарная заслуга савецкага народа, нашай партыі, брацкіх партый краін сацыялізма, усіх камуністычных і рабочых партый, міжнароднага рабочага класа, міралюбівых сіл усіх краін.

Каб забяспечыць трывалы мір паміж народамі, Савецкі Саюз дабіваецца ўсеагульнага і поўнага раззбраення пры строгім міжнародным кантролі. Нашы прапановы прадугледжваюць усеагульную адмову ад зброі як сродку вырашэння спрэчных праблем. Савецкі ўрад неаднаразова выступаў з ініцыятывай па гэтаму пытанню. У 1959 годзе, на XIV сесіі Генеральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'яднаных Нацый, кіраўнік нашага ўрада М. С. Хрушчоў прапанаваў Дэкларацыю аб усеагульным і поўным раззбраенні, якая знайшла найшырэйшы водгук ва ўсім свеце. Але імперыялістычныя дзяржавы, перш за ўсё амерыканскі імперыялізм — гэта галоўная апора сусветнай рэакцыі, вядуць шалёную гонку ўзбраенняў. Яны працівяцца ажыццяўленню савецкіх прапаноў аб раззбраенні, завялі ў тупік перагаворы аб спыненні выпрабаванняў ядзернай зброі, ужылі дзеянні, якія ўскладнілі міжнародную абстаноўку. Гэта прымусіла наш урад пры поўным і аднадушным адабрэнні савецкага народа прыняць неабходныя меры для ўмацавання бяспекі краіны, умацавання міру ва ўсім свеце.

Савецкі Саюз настойліва змагаецца супраць агрэсіўных планаў заходнегерманскага мілітарызму, які адрадзіўся, за ліквідацыю рэштак другой сусветнай вайны. У шматлікіх дакументах Савецкага ўрада паслядоўна і цярпліва растлумачвалася неадкладная неабходнасць заключэння германскага мірнага дагавору і нармалізацыі на яго аснове становішча ў Заходнім Берліне.

Савецкая дзяржава нязменна падтрымлівала і будзе падтрымліваць справядлівую барацьбу народаў Азіі, Афрыкі, Лацінскай Амерыкі за нацыянальнае вызваленне. Па ініцыятыве Савецкага Саюза Арганізацыя Аб'яднаных Нацый прыняла Дэкларацыю аб прадастаўленні незалежнасці каланіяльным краінам і народам.

Развіццё міжнародных падзей пераканаўча паказвае, што аб'яднанымі сіламі магутнага сацыялістычнага лагера, міралюбівых несацыялістычных дзяржаў, міжнароднага рабочага класа і ўсіх сіл, якія адстайваюць справу міру, можна прадухіліць новую сусветную вайну.

**Камуністычная партыя Савецкага Саюза і ў далейшым будзе актыўна і паслядоўна ажыццяўляць палітыку мірнага суіснавання дзяржаў з розным грамадскім ладам, змагацца за ўсеагульнае і поўнае раззбраенне, за прадухіленне новай вайны, пільна сачыць за падкопамі агрэсараў і трымаць на належнай вышыні абарону краіны, падтрымліваць свяшчэнную барацьбу прыгнечаных народаў за свабоду і незалежнасць, умацоўваць дружбу і супрацоўніцтва з краінамі сусветнай сацыялістычнай сістэмы, з усімі народамі.**

У вялікім паходзе да камунізма савецкіх людзей натхняюць словы Праграмы КПСС:

«Камунізм выконвае гістарычную місію вызвалення ўсіх людзей ад сацыяльнай няроўнасці, ад усіх форм прыгнечання і эксплуатацыі, ад жахаў вайны і ўсталёўвае на зямлі **мір, працу, свабоду, роўнасць, брацтва і шчасце** ўсіх народаў».

Дарагія таварышы выбаршчыкі!

Чатыры гады, якія аддзяляюць нас ад мінулых выбараў, зноў паказалі ўсім савецкім людзям, што ў Камуністычнай партыі Савецкага Саюза, створанай вялікім Леніным, словы ніколі не разыходзяцца са справамі. Усё, што намячае партыя, ажыццяўляецца. Так было і так будзе ў далейшым! У ленінскай партыі няма і не можа быць іншых спраў, акрамя беззапаветнага служэння народу. **«Партыя існуе для народа, — гаворыцца ў Праграме КПСС, — у служэнні яму бачыць сэнс сваёй дзейнасці».** У будні і святы, у дні выпрабаванняў і радасцей партыя заўсёды ішла і ідзе разам з народам, выражаючы яго волю, яго карэнныя інтарэсы.

**Саюз камуністаў і беспартыйных, выпрабаваны жыццём, вопытам барацьбы за перамогу сацыялізма, з'яўляецца магутнай, дзейснай сілай, яркім выражэннем несакрушальнага адзінства партыі і народа.** І цяпер Камуністычная партыя будзе выступаць на выбарах у Вярхоўны Савет СССР у цесным адзінстве, у непарушным саюзе з беспартыйнымі рабочымі, сялянамі, інтэлігенцыяй.

**Камуністычная партыя заклікае ўсіх выбаршчыкаў у дзень 18 сакавіка аднадушна аддаць свае галасы за кандыдатаў у дэпутаты Вярхоўнага Савета СССР — агульных як для камуністаў, так і для беспартыйных!**

Аддаючы свае галасы кандыдатам блоку камуністаў і беспартыйных, вы будзеце галасаваць за ажыццяўленне гістарычных рашэнняў XXII з'езда КПСС, умацаванне магутнасці нашай Радзімы, за далейшы ўздым народнага дабрабыту, за ўмацаванне міру ва ўсім свеце. Аднадушным выбраннем у Вярхоўны Савет СССР кандыдатаў блоку камуністаў і беспартыйных вы яшчэ раз пакажаце, якая адзіная і моцная дружная многанацыянальная сям'я народаў нашай краіны, як цесна згуртаван савецкі народ вакол Камуністычнай партыі і Савецкага ўрада.

## ТАВАРЫШЫ ВЫБАРШЧЫКІ!

**Цэнтральны Камітэт КПСС заклікае вас выканаць свой грамадзянскі абавязак: 18 сакавіка 1962 года выбраць вышэйшы орган дзяржаўнай улады нашай краіны — Вярхоўны Савет СССР!**

**Усе на выбары!**

**За новую перамогу блоку камуністаў і беспартыйных!**

**Няхай жыве наша любімая Радзіма — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік!**

**Няхай жыве вялікі савецкі народ — будаўнік камунізма, мужны і непахісны барацьбіт за мір і шчасце ўсіх людзей на зямлі!**

**Пад сцягам марксізма-ленінізма, пад выпрабаваным кіраўніцтвам Камуністычнай партыі ўперад, да поўнай перамогі камунізма!**

**ЦЭНТРАЛЬНЫ КАМІТЭТ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА**

# ПА ВЯЛІКАМУ РАХУНКУ

### МАСКОЎСКІЯ ГЛЕДАЧЫ АБМЯРКОЎВАЮЦЬ ТВОРЫ БЕЛАРУСКАГА МАСТАЦТВА

У добрую традыцыю ператварыліся сустрэчы гледачоў з мастакамі нашых саюзных рэспублік, якія адбываюцца вечарамі кожную сераду ў Цэнтральнай выставачнай зале Масквы.

7 лютага адбылося шырокае абмеркаванне твораў беларускіх мастакоў, выстаўленых на Усесаюзнай выстаўцы.

Мнагалюдна і надзвычай ажыўлена ў прасторнай авансале. Тут рабочыя і студэнты, школьнікі і настаўнікі, масквічы і прыезджыя — больш за тысячу чалавек.

За сталом прэзідыума — мастакі, госці з Беларусі, Арменіі і Кіргізіі, вядучыя дзеячы мастацтва сталіцы — віцэ-прэзідэнт Акадэміі мастацтваў СССР М. Манізер, сакратары праўлення Саюза мастакоў СССР Ю. Піменаў, Д. Суслаў.

Народны мастак БССР З. Азгур знаёміць гледачоў з мастакамі Беларусі, якія прыехалі ў Маскву на абмеркаванне. Сярод іх — аўтар манументальнага трыпціха «На зямлі Беларускай», заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі В. Цвірка, народны мастак Беларусі, аўтар гістарычнага палатна «Абаронцы Брэсцкай крэпасці» І. Ахрэмчык, вядомы майстар тэматычнай карціны, заслужаны дзеяч мастацтваў Я. Зайцаў, аўтар паэтычнай і пяшчотнай карціны «Беларускія прыпеўкі» Р. Кудрэвіч, жывапісец яркага тэмпераменту, свежых фарбаў, тонкага лірызму В. Жолтак, аўтар выкананых з выключным густам пастэлей А. Паслядовіч, народны мастак Беларусі скульптар А. Бембель, графік М. Тарасікаў, аўтар карціны аб першых шахцёрах Беларусі Н. Воранаў.

Абмеркаванне адразу набыло вельмі шырокі, прынцыповы, свайго роду тэарэтычны характар. Размова ішла не толькі аб асобных творах, аб удалых і няўдалых рэчах, але і аб вялікіх жыццёва-важных праблемах творчага метаду, стылю, мастацкай формы.

...Акружыўшыя скульптара З. Азгура, маладыя людзі задаюць яму дзесяткі пытанняў аб характары майстэрства скульптара, аб спецыфіцы пластычнай формы, аб тым, што такое «новыя» і «старыя» мастацкія сродкі.

— Я лічу, — гаворыць З. Азгур, — што ў мастацтве не трэба займацца «прыдумваннем» новых сродкаў. Наватарства прыйдзе само, разам з новым чалавекам, з новым жыццём. Я вучань Акадэміі і не баюся сказаць, што я верны яе старым трывалым традыцыям і традыцыям нашага народнага мастацтва. Паўтарэнне старога? Не, пры сапраўднай творчасці паўтарэння не будзе. Ад антычнасці да Рэпіна рэалістычнае мастацтва не паўтарала сябе. І мастацкая форма заўсёды змянялася разам з духоўным развіццём чалавека і чалавецтва, разам з нараджэннем новага зместу ў мастацтве і ў жыцці. Параўнайце, напрыклад, Рэпіна і Веласкеза. Абодва яны — вялікія рэалісты, але як па-рознаму здолелі яны ўвасобіць у мастацтве свае зусім розныя эпохі. Рэалізм бясконцы ў сваім развіцці. Я зусім не хачу адмаўляцца ад яго вялікіх традыцый, спальваць храм Афіны-Паллады, каб праславіцца арыгінальным і вядомым. Я паказаў на гэтай выстаўцы свае скульптуры, і адно я магу цвёрда сказаць: я не «рысаваўся» ў сваім мастацтве, не імкнуўся да арыгінальнічання, да моды, я думаў аб тым, каб сціплым, простым шляхам дасягнуць сугучнасці з сэрцамі народа.

Падрабязна расказвае З. Азгур аб мадэлях сваіх скульптур, аб характары работы над гістарычным партрэтам. З вялікай увагай слухаюць гледачы расказ аб нацыянальных героях беларускага народа — аб рэвалюцыянерцы, гераіні камуністычнага падполля Веры Харужай, аб выдатным пісьменніку-гуманісце Зм. Бядулі, аб мужным і бясстрашным кіраўніку бабруйскіх партызан Віктары Ліўенцаве.

У гэты час у той жа зале адбываецца гарачая «жывапісная» дыскусія. Мастак Я. Зайцаў з захапленнем гутарыць з маладым чалавекам у светлых акулярах.

Вялікая група людзей акружыла ў другім канцы залы скульптара А. Бембеля. Размова тут ідзе аб прапарцыянальных адносінах у скульптуры. Высокі юнак са значком спартсмена гаворыць, што яму здаюцца няправільнымі прапорцыі ў скульптуры «Няхай ніколі не будзе ўзняты меч!».

— Але ж у мастацтве прапорцыі чалавечай фігуры залежаць ад эстэтычных норм, якія вынікаюць са стылю эпохі, — пярэчыць яму падпалкоўнік медыцынскай службы. — Да скульптуры нельга падыходзіць натуралістычна, вымяраць яе каштоўнасць толькі тым, ці адпавядае яна жывой аголенай мадэлі.

Увага другіх гледачоў прыкавана ў гэтую хвіліну да карціны Н. Воранава «Шахтабудаўнікі Беларусі». Многім яна не вельмі падабаецца, здаецца невыразнай. Тут пярэчаць самі мастакі. Для жывапісу магчымы два метады — ад прыватнага да агульнага і ад агульнага да прыватнага; Н. Воранаў ішоў ад агульнага, не выпісваў падрабязна дэталей, яму хацелася перадаць агульнае ўражанне ад працы шахцёраў. І для беларусаў гэтая карціна вельмі каштоўная, бо гэта першы расказ у мастацтве аб самай маладой у рэспубліцы галіне прамысловасці.

Вялікія пытанні ўзнімаюць у выступленнях гледачы.

— Мастакі, — гаворыць ленінградскі студэнт-фізік Лемус, — не павінны забываць дзве рэчы, на якіх трымаецца мастацтва, — філасофію і эстэтыку. Наша эпоха манументальная, і яна патрабуе манументальных тэм, манументальных форм у мастацтве.

— Мастацтва павінна даваць нешта новае чалавеку, абуджаць яго думку, — сказаў тэхнік Мішын. — Мастак павінен памагчы знайсці тое, што, магчыма, не ты адзін, а ўвесь народ шукае, над чым б'ецца думка народа.

Высокую ацэнку гледачоў атрымаў на выстаўцы жывапіс В. Цвіркі. Амаль усе выступаўшыя адзначалі ў яго трыпціху цудоўнае спалучэнне тонкага лірызму, душэўнай цеплыні і вялікай філасофскай думкі, манументальнага абагульнення. «Толькі сапраўднаму майстру па сіле спалучэнне такога эпічнага размаху і лірычнай задушэўнасці», — сказаў у сваім выступленні аграном Смірноў. З вялікай любоўю гаварылі гледачы аб карціне К. Касмачова «Напярэдадні». Добра ацанілі яны таксама гістарычны пафас карціны І. Ахрэмчыка «Абаронцы Брэсцкай крэпасці», пяшчотную паэтычнасць сакавіцкіх пейзажаў Г. Азгур, карціну А. Шыбнёва «Маладзёжная брыгада ў полі».

— Мне вельмі спадабалася маленькае палатно М. Беляніцкага «Статак», — сказаў выкладчык матэматыкі Ягораў. — Яно радуе вока моцнай, добра зладжанай кампазіцыяй, колерам. У ім — сапраўдная паэзія і мяккая лірычнасць Беларусі. Але вялікая карціна таго ж мастака «Размініраванне» мяне менш кранула, бо няма ў ёй напружання і дастатковай псіхалагічнай вастрыні.

Гарачая дыскусія разгарнулася вакол карціны Я. Зайцава «Дарагі госць». Некаторыя гледачы гаварылі, што гэта адна з лепшых карцін аб дзейнасці Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, што ў ёй паказана адзінства Хрушчова з народам, яго сардэчная, цёплая сустрэча з калгаснікамі. Аднак, большасць выступаўшых гаварылі аб тым, што карціна пакідае пачуццё эстэтычнай незадаволенасці, бо аўтар не здолеў справіцца з вялікай тэмай, што ў карціне шмат шэрых месц.

З беларускай скульптуры агульнае пачуццё глыбокага задавальнення ў гледачоў выклікалі работы З. Азгура.

— Вельмі моцнае ўражанне пакідае скульптура Азгура «Вера Харужая», — гаворыць глядач Раманычаў. — Мне здаецца, у кампазіцыі гэтага партрэта вялізарнае значэнне мае жэст. Рука надае вобразу асаблівую адухоўленасць, яна надае сілу і асэнсаванасць парыву.

— Я не разумею, чаму ў нас вельмі баяцца паўтарэнняў, — гаворыць інжынер Сарочкін. — Я лічу, няхай будуць сотні і тысячы такіх скульптур, як «Вера Харужая», тысячы аднолькавых профіляў, аднолькавых фасаў, але кожны раз — такі ж вялікі, сапраўдны, мастацкі вобраз.

Работа вядомага беларускага скульптара А. Бембеля «Няхай ніколі не будзе ўзняты меч!» выклікала, наадварот, нямала пярэчанняў.

— Аўтар узяў вельмі важную, вельмі актуальную тэму, — гаворыць малады ленінградскі фізік, — але не здолеў яе пераканаўча вырашыць.

...Гадзіннік на маскоўскай Манежнай плошчы паказвае дзявятую гадзіну. Ужо празвінелі званкі, якія абвяшчаюць аб закрыцці выстаўкі. Пагасла ўжо святло ў многіх залах. Але яшчэ чуваць галасы ўдзельнікаў абмеркавання, гледачоў, якія падняліся ў гэты дзень на трыбуну мастацкай крытыкі. Няхай не ўсё гладка і не ўсё яшчэ ідэальна ў гэтым абмеркаванні, няхай сустракаюцца іншы раз выступленні некваліфікаваныя, спешна падрыхтаваныя або рэзкія, няхай і самі мастакі не заўсёды ведаюць, як жа ўзяць такую бурную аудыторыю «ў рукі», — ды ці мала яшчэ ёсць недахопаў у арганізацыі гэтых «манежных серад»? Але ж гэта вельмі вялікая і вельмі патрэбная справа, гэта новая форма прапаганды савецкага мастацтва, выдатная форма збліжэння мастака з народам, гэта ажыццяўленне мары Леніна аб мастацтве, якое належыць народу.

**С. ЧАРВОННАЯ,**
**мастацтвазнаўца.**

Масква.

## Падзеі Факты Навіны

□ Цікавы вечар адбыўся нядаўна на Мінскай абутковай фабрыцы імя М. І. Калініна. На вечары мог прысутнічаць толькі той, хто пры ўваходзе купляў кнігу. Гасцямі на вечары былі беларускія пісьменнікі. Ніл Гілевіч прачытаў вершы. Аб працы над сваімі творамі расказаў Хведар Жычка. Затым пісьменнікі пісалі аўтографы.

На вечары былі праведзены літаратурная і кніжная віктарыны. Прыйшлі ў госці і работнікі мастацтва. Народны артыст БССР Я. Палосін прачытаў урыўкі з твораў М. Шолахава. Затым адбыўся канцэрт мастацкай самадзейнасці.

□ Нядаўна ў Чарнігаве і Гомелі былі падведзены вынікі сацыялістычнага спаборніцтва паміж гэтымі дзвюма суседнімі абласцямі братніх рэспублік.

Днямі ў Чарнігаў на справаздачныя гастролі выехаў Гомельскі абласны драматычны тэатр. За 10 дзён ён пакажа 5 новых спектакляў жыхарам абласнога цэнтра і працоўным раёнаў, калгасаў, саўгасаў. Сярод пастановак, якія ўбачаць украінскія гледачы — п'еса «Лявоніха на арбіце» А. Макаёнка.

У гэты ж час адбываюцца выступленні Чарнігаўскага абласнога музычна-драматычнага тэатра на Гомельшчыне.

□ У Мінску адбыліся гастролі вядомага фінскага спевака Харраса Хурсці. Беларускія аматары музыкі праслухалі ў яго выкананні фінскія песні, арыі з опер Пучыні, Чайкоўскага, Вердзі, Леанкавала.

□ У Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі адбыўся канцэрт лаўрэата Міжнароднага конкурсу ў Берліне піяніста Аляксандра Бахчыева. У праграму першага аддзялення былі ўключаны фартэпіянныя творы Гайдна, Бетховена, Шуберта. Праграму другога аддзялення склалі «Венскі карнавал» Шумана, «Дванаццаць мімалётнасцей» і Трэцяя саната для фартэпіяна С. Пракоф'ева, а таксама творы А. Лядава, П. Чайкоўскага, Ф. Шапена, С. Рахманінава.

Канцэрт маскоўскага піяніста выклікаў вялікую цікавасць у аматараў фартэпіяннага мастацтва беларускай сталіцы.

### ПАВЕДАМЛЕННЕ

Савет клуба Саюза пісьменнікаў БССР паведамляе, што творчы вечар артыста Абразцова пераносіцца з 15 на 16 лютага.

## Юбілей Р. Шырмы

У мінулую суботу ў зале Белдзяржкансерваторыі сабраліся шматлікія прадстаўнікі партыйных і грамадскіх арганізацый Мінска, аматары мастацтва, каб адзначыць сямідзесяцігоддзе з дня нараджэння і пяцідзесяцігоддзе творчай дзейнасці выдатнага музычнага дзеяча, буйнага беларускага фалькларыста, мастацкага кіраўніка Акадэмічнай харавой капэлы БССР, народнага артыста СССР Рыгора Рамановіча Шырмы.

Юбілейны вечар адкрыў уступным словам старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР, народны артыст СССР Я. Цікоцкі. Пра творчы шлях Рыгора Раманавіча, пра яго сапраўды руплівую працу па збіранню беларускага фальклору расказаў у сваім дакладзе яго паплечнік па мастацтву, музыказнаўца Г. Цітовіч.

Загадчык аддзела прапаганды і агітацыі ЦК КПБ М. Капіч пад бурныя апладысменты ўсёй залы абвясціў Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні Р. Р. Шырмы ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга і горача павіншаваў юбіляра з высокай урадавай узнагародай.

З цёплымі і шчырымі словамі прывітанняў звярнуліся да Р. Шырмы міністр культуры БССР Р. Кісялёў, сакратар Мінскага гаркома партыі А. Караткевіч, прадстаўнікі ад кампазітарскіх арганізацый Беларусі, РСФСР, Украіны, Літвы, ад Саюза пісьменнікаў БССР, Усерасійскага харавога таварыства, Тэатра імя Я. Купалы і опернага тэатра, Мінскай музычнай школы-адзінаццацігодкі, Мінскага аўтазавода, Беларускага універсітэта і іншых творчых калектываў і грамадскіх арганізацый рэспублікі. Апрача вялікай колькасці прывітальных адрасоў, на імя юбіляра паступіла звыш 250 віншавальных тэлеграм не толькі з Беларусі, але і з розных куткоў Савецкага Саюза.

Вечар закончыўся канцэртам, у якім прынялі ўдзел узорны аркестр штаба БВА, Акадэмічная харавая капэла і салісты.

## Высокая ўзнагарода

**У нашай краіне добра ведаюць імя народнага артыста СССР, выдатнага фалькларыста і дырыжора Рыгора Раманавіча Шырму. Днямі, у сувязі з сямідзесяцігоддзем з дня нараджэння і адзначаючы заслугі ў развіцці савецкай музыкі, Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Р. Шырма ўзнагароджан ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.**

**Максім ЛУЖАНІН**

## ДЗЯЎЧЫНА І СОНЦА

(Па народных матывах)

*Рыгору Раманавічу ШЫРМЕ.*

Пахвалялася дзяўчына
Перад вернаю сяброўкай,
Што яна адна на свеце
Прыгажэйшая за месяц,
Прыгажэйшая за сонца.

А пачула гэта сонца
І хвальчыху выклікае:
— Давай дужацца красою,
Хто з нас лепш пасвеціць
людзям
Ад усходу да заходу.

Пасміхнулася дзяўчына
І прыбралася ў каморы.
На красуні ўсё зіхцела:
Каснікі, сукенка ў макі,
А найболей — чаравічкі.

Шчыравала моцна сонца,
Ад праменняў прыбывала
Безліч колераў у кветак,
І звычайнае каменне
Ззяла, быццам дыяменты.

Тут на двор дзяўчына выйшла,
І відны адразу сталі
Спраты дзіў на дне азёраў,
Залатыя скарбы ў нетрах,
Думкі, што схаваны ў душах.

Не падняць на сонца вочы,
Хоць бяры ты іх заплюшчвай!
А як глянеш на дзяўчыну,
Гэтак робіцца уцешна,
Вось, здаецца, заспяваў бы!

Ад усходу да заходу
Паміж іх трывае спрэчка:
Хто красою перасіліць?
Вечар, стала гаснуць сонца,
А дзяўчына прыгажэе!

Запрасілася свяціла:
— Лепш схавайся ты ў камору,
Бо пры двух агністых сонцах
І жанцам у полі душна,
І аратым на палетках,
І гаям з шумлівым лістам.

Не паслухала дзяўчына,
Не пайшла яна ў камору,
А ўздыхнула і ўзляцела
Па-над светам гучнай песняй,
Па красе да сонца роўнай.

Каб святло ў людзей гасціла,
Калі сонца спаць кладзецца,
На зямлю вяртае песню
Хор,
які вядзе рукою
Спеўны майстар,
Дзядзька сівы.

## ГАВАНСКАЯ ДЭКЛАРАЦЫЯ

Мал. М. ЖЫТНІЦКАГА.

# На радзіме Шахразады

**К. БУРМІСТРАЎ.**

### МАСКВА — КАІР — БАГДАД

**Канстанцін Міхайлавіч Бурмістраў — урач, загадчык аддзялення Віцебскай абласной бальніцы. З 1959 па 1961 год ён працаваў у Іраку. «На зямлі Шахразады» — гэта запіскі К. Бурмістрава аб Іраку і яго народзе, аб рабоце савецкіх спецыялістаў у гэтай краіне.**

Хто з нас не захапляўся цудоўнымі казкамі Шахразады? Не раз крылатыя мары неслі мяне на яе легендарную радзіму. Нібы ўвачавідкі ўяўлялася гэтая сонечная краіна: бясконцыя гаі фінікавых пальмаў, тэмпераментныя арабы, усходнія прыгажуні ў цёмным убранні, вузкія вулачкі старадаўняга шумнага Багдада, дэрвішы, бедуіны... Але ніколі і ў думках не меў, што мне прыйдзецца доўгі час жыць і працаваць у тых мясцінах.

Калісьці ў міжрэччы Тыгра і Еўфрата квітнела рабаўласніцкая дзяржава Вавілон. У ёй працай рабоў была створана сетка арашальных каналаў, якая пакрывала ўсю краіну. Таму яна танула ў зеляніне. На яе тэрыторыі жыло сорак мільёнаў чалавек. Цяпер на гэтым месцы знаходзіцца невялікая дзяржава — Ірак. Да нядаўняга часу яна была закавана ў імперыялістычныя ланцугі. На яе зямлі гаспадарылі прагныя і лютыя чужаземцы, якія прысвойвалі ўсе яе багацці. Краіна была ўцягнута здрадніцкім урадам у сістэму агрэсіўных ваенных блокаў, якія, нібы павук, высмоктвалі з яе ўсе жывыя сокі.

Каланізатары спадзяваліся, што Ірак назаўсёды застанецца бастыёнам рэакцыі на Блізкім Усходзе. Але яны памыліліся. Не скарыўся іракскі народ перад імі і іх прыслужнікамі. У 1958 годзе ён расправіў свае магутныя плечы і скінуў тыранічны рэжым лакея імперыялістаў Нуры Саіда і прадажнага караля Фейсала. За адну ноч, нібы струхнелая будыніна, рассыпалася манархія. Маладая рэспубліка выйшла з агрэсіўнага Багдадскага пакта, устанавіла дружалюбныя адносіны з мірнымі краінамі і цвёрда пайшла па шляху эканамічнага і культурнага развіцця.

Мы, савецкія людзі, з радасцю сустрэлі вестку аб гэтым і ад усёй душы віталі захады Савецкага ўрада па дапамозе іракскаму народу ў будаўніцтве новага жыцця. Калі мне прапанавалі паехаць з групай урачоў у Ірак, я ахвотна згадзіўся. Чалавек я ўжо немалады і не шукаў рамантычных прыгод. Але як урач лічыў сваім абавязкам асабіста ўдзельнічаць у наладжванні аховы здароўя народа, які стагоддзямі стагнаў пад чужаземным прыгнётам.

У гэтай галіне становішча ў краіне было асабліва цяжкае. Да рэвалюцыі 95 працэнтаў насельніцтва хварэла сухотамі, трахомай, тыфусам, малярыяй, анеміяй і інш. Гэта вынік надзвычайна нізкага жыццёвага ўзроўню, бесчалавечнай эксплуатацыі і поўнай адсутнасці клопатаў аб лёсе народа. Ва ўсім Іраку налічвалася 800 урачоў, палавіна якіх працавала ў Багдадзе, а чвэрць — у іншых буйных гарадах. У сельскай мясцовасці адзін урач прыпадаў на 17 тысяч чалавек.

Самымі першымі клопатамі рэспубліканскага ўрада была ахова здароўя насельніцтва.

... Нарэшце выкананы ўсе фармальнасці. У Багдад нам трэба ляцець праз сталіцу Егіпта — Каір. Трэба сказаць, што такіх выгод, як мы, не мелі героі казак Шахразады. Не прымітыўны кілім-самалёт, а камфартабельны рэактыўны лайнер ТУ-104 узнімае нас у нябесны блакіт. Пад намі прыгажуня Масква. Да пабачэння, велічная, гордая, мілая сталіца-працаўніца!

Хутка праносіцца пад намі родная зямля. Зверху бачым невялікія чатырохкутнікі дамоў, рознакаляровыя палосы палёў, серабрыстыя стужкі рэк. Неўзабаве паказаліся пікі гор. Бортправадніца паведаміла, што наша хуткакрылая птушка перасекла граніцу айчыны. На душы робіцца крыху сумна і трывожна. Як сустрэне нас чужая зямля? Але настрой застаецца прыўзнятым.

Выйшаўшы з самалёта на каірскім аэрадроме, мы адразу трапілі пад асляпляльныя, пякучыя праменні вогненнага сонца, якое вісела над галавой у бязвоблачным блакіце. Гэта было нечакана і цудоўна. Нават не верылася, што ўсяго некалькі гадзін назад мы дрыжалі ад холаду ў асенніх паліто на маскоўскім аэрадроме.

Пераглядваемся, не ведаючы, у які бок пайсці. Раптам чуем голас на рускай мове: «Браткі, да мяне!» Гэта кліча нас поўны, лысаваты мужчына немаладых год. Ён вітаецца і рэкамендуецца: «Пётр Іванавіч, ваш пакорны слуга». Нас бянтэжыць яго празмерная ліслівасць і паслужлівасць. Пазней даведаліся, што гэта эмігрант з Расіі, які ўладкаваўся на работу ў аэрапорце. З яго дапамогай хутка заканчваем усе фармальнасці і ідзём у атэль, у якім падрыхтавала для нас месцы авіякампанія. Тут нам трэба пражыць тры дні, чакаючы самалёта на Багдад. Такая затрымка нам да спадобы — маем магчымасць агледзець старадаўнюю сталіцу Егіпта, яе славутыя мясціны.

Аўтобус імчыцца па шырокай асфальтавай вуліцы. Па абодвух баках віднеюцца маленькія хацінкі з высокімі гліністымі або каменнымі агароджамі. У пыле корпаюцца напаўраздзетыя мурзатыя дзеці.

Зусім іншы малюнак убачылі мы на цэнтральных вуліцах. Высокія, еўрапейскага тыпу дамы, ззяюць вялізнымі вітрынамі магазіны. Ні на хвіліну не спыняецца паток машын.

Паслужліва адчыняе дзверы атэля чорнаскуры слуга ў белаcнежным касцюме. Аказваецца, увесь штат складаецца з неграў і толькі з мужчын. Яны добра вымуштраваны і, здаецца, пазбаўлены пачуцця ўласнай годнасці. Мы ніяк не можам звыкнуцца з іх ліслівасцю перад «містэрамі» і «мадам».

Гаспадар яшчэ малады чалавек з выточанымі манерамі. Ён надакучліва ветлівы, валодае французскай, англійскай, турэцкай і фарсідскай мовамі. Губы яго выгінаюцца ва ўсмешцы, але позірк халодны, нядобразычлівы: Мы з палёгкай уздыхаем, калі ён знікае з нашых вачэй.

Пётр Іванавіч прапануе нам план экскурсіі — піраміды Гіза, дзяржаўны каірскі музей, мячэць і палац Алі Мухамеда, які ў мінулым стагоддзі доўгі час быў уладаром Егіпта. Мы ахвотна згаджаемся. На гэтым місія Пятра Іванавіча вычэрпваецца, і ён пакідае нас.

Назаўтра раніцай выязджаем. Наш гід — тып сучаснага егіпецкага буржуа. На ім доўгі парчовы халат, падпяразаны яркім чырвоным поясам. Хаця на вуліцы не менш трыццаці градусаў гарачыні, ён апрануў паверх халата карычневую абу (накідку), якая спадае ледзь не долу. На галаве — чалма. Ён ветлівы, жыццярадасны і крыху выстаўляецца сваім красамоўствам.

Зноў едзем па шумных вуліцах Каіра, накіроўваемся на ўскраіну горада. Меркавалі, што давядзецца ехаць па пустыні, і з нецярплівасцю спадзяваліся ўбачыць «пясчаныя стэпы Аравійскай зямлі», дзе «тры гордыя пальмы высока раслі». На наша здзіўленне, яшчэ едучы па вуліцы, мы ўжо ўбачылі славутыя піраміды. Аказваецца, егіпцяне прымусілі пустыню адступіць.

Перад намі шэрыя мураваныя гмахі, а вакол распаленыя каменні і пясок. Бліжэй да нас узвышаецца самая вялікая піраміда. Некаторы час стаім нерухома і маўкліва. Гід пачаў свае тлумачэнні.

— Гэта — піраміда фараона Хеопса. Яе вышыня — 146 метраў. На працягу 20 год яе будавалі сто тысяч рабоў. Па дзесяць тысяч чалавек змянялася кожны месяц. Большасць з іх гінула. Ніякіх пад'ёмных прылад тады не было і камяні вагой у 30 і больш тон узнімаліся ўгару ўручную.

На працягу тысячагоддзяў простыя людзі не смелі нават блізка падыходзіць да «свяшчэнных» месц, дзе былі пахаваны фараоны. Цяпер кожны, хто жадае, можа агледзець піраміды знадворку і ўсярэдзіне.

Ля ўваходу стаіць бедна апрануты стары — ахоўнік піраміды. Ён спакойна, з велічнай усходняй павольнасцю адказвае на нашы пытанні. А праз некаторы час мы па хісткай дошцы з вяроўкамі замест поручняў лезем наверх па вузкаму крутому лазу. Нарэшце трапляем у прасторны гранітны пакой. Вакол пуста. Толькі пасярэдзіне стаіць саркафаг, падобны да вялізнай каменнай ванны. Ён таксама пусты. Гід тлумачыць, што фараона даўно перанеслі ў музей. Там жа захоўваюцца ўцалелыя каштоўнасці — многія ў свой час былі разрабаваны і вывезены ў Англію, Францыю, ЗША і іншыя краіны.

Мы абышлі ўсе піраміды. Іх засталося мала — тры вялікія і некалькі дробных, паўразбураных. Надоўга затрымліваемся ля сфінкса, твар якога, па сведчанню гіда, адлюстроўвае рысы ўладара, што пад ім пахаваны. Сфатаграфаваліся на фоне пірамід і сфінкса. Пазней наведалі іншыя славутыя мясціны егіпецкай сталіцы, шпацыравалі па маляўнічых берагах Ніла, які павольна коціць свае мутныя хвалі праз цэнтр горада...

Зноў у паветры. Агледзелі з вышыні гераічны Порт-Саід, славуты Суэцкі канал, узбярэжжы Ізраіля, Лівана, Сірыі. Раніцай прыляцелі ў Багдад. Над старадаўнім горадам узнімалася сонца. Яго праменні пазалацілі воды Тыгра, надалі асаблівую яркасць беласнежным мінарэтам, асвяцілі ўсхваляваныя твары людзей. Гэта — сонца свабоды. Яно ззяе сёння над маладой рэспублікай, якая робіць свае першыя самастойныя крокі.

Хорыя — свабода! Гэтае слова народжана рэвалюцыяй. Ім названа цэнтральная вуліца сталіцы, якая раней насіла імя тырана і забойцы Нуры Саіда. Гэтым словам названы многія вуліцы гарадоў, ім пачынаюцца мясцовыя радыёперадачы.

З вуснаў іракскіх сяброў мы даведаліся аб падрабязнасцях рэвалюцыйнага перавароту. На досвітку 14 ліпеня 1958 года Багдад абудзіла страляніна. Гэта былі грымоты рэвалюцыі. Паўстанне першымі ўзнялі часці пад камандаваннем К. Касема, тыя самыя, якіх Нуры Саід намерваўся накіраваць на ўціхамірванне ліванскага народа.

У тры гадзіны ночы войскі абкружылі палац караля ў Багдадзе, дзе нават не падазравалі, што лёс манархіі прадвырашаны. Калі кароль Фейсал І яго дзядзька, наследны прынц Абдул Ілях, даведаліся, што палац абкружаны і паўстанцы патрабуюць адмаўлення караля ад прастолу, яны паспрабавалі арганізаваць супраціўленне. Але праз некалькі хвілін усё было скончана. Фейсал і Абдул Ілях былі забіты.

У гэты час у іншых раёнах горада паўстанцкія часці іракскай арміі пры падтрымцы народа занялі радыёстанцыю, тэлеграф, паліцэйскае ўпраўленне, урадавыя будынкі. Не ўдалося ўцячы амаль ніводнаму прыслужніку манархіі. Толькі стары прайдзісвет Нуры Саід — адзін з галоўных віноўнікаў трагедыі іракскага народа, спрабаваў уцячы ад расплаты. Яго дом трыма падземнымі ходамі быў злучаны з ракой, на якой заўсёды чакала лодка. На ёй тыран і хацеў знікнуць. Але паўстанцы натрапілі на яго след. Не памаглі шакалу ні жаночае адзенне, ні чадра. Справядлівая кара спыніла кар'еру авантурыста.

Народ адхіліў каралеўскую канстытуцыю. Абвешчана часовая канстытуцыя, якая будзе заменена пастаяннай. Яна прадугледжвае роўнасць і супрацоўніцтва ўсіх грамадзян. Упершыню ў гісторыі Ірака сталі раўнапраўнымі грамадзянамі курды, якія складаюць чвэрць насельніцтва краіны.

Пачуцці, якімі поўныя сэрцы іракскіх працоўных, вельмі добра выказаў сучасны прагрэсіўны паэт Аль-Баяці-Абд аль Ваххаб. Яго пранікнёны верш, перакладзены на рускую мову, я запісаў у сваім блакноце.

Нет больше стен,
разделяющих нас,
Пробил тиранов
последний час.
Разбиты оковы —
мы свободны,
Как пламя,
Как птица,
Как солнце над родиной.
Народ Ирака сильнее веков,
Сильней королевских
штыков.

Слаўнай старонкай увойдзе ў гісторыю чалавецтва подзвіг свабодалюбівага іракскага народа.

(Працяг будзе).

Галоўны рэдактар Н. Е. ПАШКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: З. І. АЗГУР, А. І. БУТАКОЎ, К. Л. ГУБАРЭВІЧ, В. Ул. ІВАШЫН, А. Н. МАРЦІНОВІЧ (адказны сакратар), П. Ф. ПРЫХОДЗЬКА, Р. К. САБАЛЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), М. Г. ТКАЧОЎ, І. З. ШАРАХОЎСКІ, І. Б. ШАЦІЛА, Р. Р. ШЫРМА.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР, Минск.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: г. Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: прыёмнай рэдакцыі—3-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 3-25-25, адказнага сакратара—3-25-25, аддзела літаратуры—3-20-54, аддзела мастацтва—3-24-62, аддзела культуры—3-22-04, выдавецтва—3-19-52, бухгалтэрыі—3-11-03.

«Літаратура і мастацтва» выходзіць два разы на тыдзень: у аўторак і пятніцу.

АТ 00059

Друкарня выдавецтва «Звязда».